# адступаць няма куды

Аляксандр Максімюк

Даўно ў мінулым хваляванні звязаныя з выбарамі ў Сейм і Сенат Польскай Народнай Рэспублікі. Аднак жа, след, які пакінула гэтая падзея ў грамадстве - далёкі ад маргінальнага, а справа самых выбараў,доўга яшчэ, будзе варочацца звонкім рэхам, так у польскай, як і беларускай,грамадскасцях Польшчы. Удзел беларусаў у выбарах быў ужо шырока каментаваны, так спецыялістамі, як і абсалютнымі дылетантамі - прыводзіліся падрабязныя дадзеныя. Таму не намерваюся паўтараць тут, шмат разоў выказаных заклікаў, быццам маральна мы выйгралі выбары - гэта безумоўна, але паспрабую прыблізна апісаць самую выбарчую кампанію, паказаць цяжкасці, якія сустракаліся на зманлівай, нараз, дарозе дэмакратыі, на якую, толькі што, увайшлі і беларусы ў Польшчы. Усё гэта дзеля танчэйшага азнаямлення са справай усіх тых, хто гарачы перыяд правёў глядзеўшы ў тэлебачанне, раскошна разваліўшыся на канапе, з папіросам і чаркай віна, і а во вам!
Дазваляю сабе лічыць маю інтэрпрэтацыю з'явы больш-менш верагоднай, з тае прычыны, што асабіста давялося мне ўдзельнічаць у беспардонным, прынцыпова няроўным ад самага пачатку, змаганні за галасы.

Калі б беларусы распараджалі такімі матэрыяльнымі сродкамі, як кааліцыя, або апазіцыя, і калі б мелі ў лакальным радыё паўгадзіны штодзень - ці змаглі б настолькі знішчыць канкурэнтаў, каб выбары закончыліся не толькі маральным, але і рэальным поспехам?
Лічу, што справа была, і на сённяшні дзень застаецца, нерэальнай. Галоўныя прычыны такога становішча наогул вядомыя. Свядомасць у народзе надзвычай нізкая, а царкоўныя сферы нават цвердзяць, што зусім неакрэсленая. Несумненна існуе штосьці накшталт ірацыянальнага страху перад тым, каб наяўна акрэсліватца, страху, які незаўсёды бывае пераможаны, нават, інтымнасцю заслоны ў выбарчым памяшканні. Трэба таксама адзначыць, што змагароў, у час выбарчай кампаніі, збівалі з панталыку і зусім недарэчныя перашкоды, з якіх варта памянуць раскольніцкія намаганні Царквы, у апошніх, найбольш гарачых днях кампаніі. Асабіста мушу дакінуць яшчэ адзін факт, які застаецца для мяне сур'ёзным недахопам усяе ідэалагічнай барацьбы беларусаў - змагаліся мы, усё такі, па-джэнтльменску.
Як жа, аднак, дайшло да таго, што выбары можна назваць маральнай перамогай беларусаў?

Сёння, хіба ніхто не сумняваецца ў тым, што пастаўленне беларусамі ў выбары незалежных кандыдатаў, было адзіным шанцам іхняга палітычнага заіснавання ў новых, стрымгалоў узнікаючых, рэальнасцях Польшчы. Той, хто спадзяваўся на што іншае, хто карміў сябе кволымі ілюзіямі, нібыта беларусы дарма атрымаюць ад кааліцыі мандат, той яшчэ да чацвёртага чэрвеня правапіўся ў пустэчу, у становішчы палітычнае сіраты. Выбары чарговы раз высветлілі жахлівую, хоць in extenso і не безнадзейную сітуацыю беларусаў, паказалі наяўна, што ні кааліцыя, ні апазіцыя, не маюць станоўчай праграмы адносна, найбольшай колькасна, беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. А самым беларусам, адступаць няма куды - за імі Беларусь, як кемліва заўважыў наш незалежны кандыдат у сенатары, Сакрат Яновіч.
Хто ж, тады, узяў на свае плечы цяжар самотнага змагання за тоеснасць жменькі людзей, да якіх афіцыйна ніхто не прызнаецца, ні на ўсход, ні на захад ад Беласточчыны?

Немалаважнымі, калі не самымі важнымі выканаўцамі гэтай задумы былі Беларускае аб'яднанне студэнтаў - БАС, ды моладзь, больш, або менш звязаная з традыцыяй БАС-а. Цераз моладзь звязаную з традыцыяй БАС-а разумею і беластоцкае Брацтва праваслаўнай моладзі, якое нягледзячы на капрызлівую зменлівасць палітыкі мецэнасаў, сваёй актыўнасцю і самазабыўнасцю, дало рашучую падтрымку незалежным беларускім кандыдатам - Яўге-

ну Мірановічу і Сакрату Яновічу. Варта ў гэтым месцы прыгадаць некалькі фактаў з недалёкага мінулага, якія паказваюць, што гэта не першы раз, калі ў рашаючых момантах навейшай гісторыі моладзь рашучым крокам уваходзіць на непрацёрты шлях.

Пачатак васьмідзесятых гадоў гэта і пачатак ідэі БАС-а, час, калі беларускае студэнцтва, не атрымоўваючы вонкавай падтрымкі, бескампрамісна паставілася да хісткай рэчаіснасці краіны. Ініцыятыва праваліласяֲ але, як паказала будучыня, было ранавата. Неўзабаве аднак, беларускія студэнты звязваюцца з узыходзячым, небывалай магутнасцю, Згуртаваннем польскіх студэнтаў. І паколькі Згуртаванне патрабуе актыўных членаў, беларускія арганізацыйныя структуры ЗПС перажываюць росквіт. Сёння, з перспэктывы законнага існавання БАС-а, гэты адыход ад ідэі самастойнасці бывае па-рознаму каментаваны. Неабвяргальным аднак застаецца тое, што немалаважныя здабыткі тае пары адчувальныя і па сённяшні дзень, хаця б гэты часопіс, які, чытач, трымаеш перад сабою. У 1988 годзе БАС абвяшчаецца другі раз. У краіне рыхтуецца "круглы стол". Прадстаўнікі БАС-а ўдзельнічаюць у сустрэчах прадстаўнікоў польскіх маладзёжных асяроддзяў, якія арганізуюцца дзеля абмеркавання праблем для дыскусіі за "круглым столікам" па справах моладзі. Сукупнасць спраў, закранутых БАС-ам у гэтых дыскусіях, далёкая ад праблем адно маладзёжных асяроддзяў. Сваім абсягам абнімае яна справы беларускай меншасці ў Польшчы, як цэласці. Здавальняючае БАС пагадненне не атрымоўваецца, таму не марнаваўшы часу, БАС незалежна апрацоўвае спісак пастулатаў-патрабаванняў беларусаў.

І так, падыходзім зноўку да тэмы выбарчай кампаніі, з безлічам большай, або меншай важкасці перашкодаў ды арганізацыйных недахопаў. БАС уключыўся ў кампанію без лішніх сентыментаў, гэта значыць, раз'ехаўся нявялікімі групамі па цэлай Беласточчыне, наведваючы няраз забытыя светам вёскі, з нязмененымі спакон-вякоў шыльдамі, на якіх цяпер і назову мясцовасці не прачытаеш, цэлы час утрапёна несучы ў народ святло прапаганды. Быў бы я сама менш несправядлівы, калі б не згануў тут пра працаўніка Беларускага грамадска-культурнага таварыства - Віктара Стахвюка, хоць і несамавітага з выгляду чалавека, але велічнага духам змагара, сапраўднага боса рэкламы на карысць нашых кандыдатаў, ахвярнасць і самазабыўнасць якога ўвасаблялі самы лепшы ўхіл дзейнасці БГКТ, а прадбачлівасць і арганізацыйная хітрасць няспынна пасоўвалі цэлую кампанію ўперад, каб урэшце завяршыць яе заклікам, пачутым цэлай Беласточчынай і далёка па-за межамі краіны: "Пра нашы справы будзем гаварыць самі".

Чацвёртага чэрвеня нашы кандыдаты, Яўген Міранович у паслы і Сакрат Яновіч у сенатары, атрымалі, на здзіў іхнім непрыхільнікам і ворагам, дзесяткі тысяч галасоў. І хаця галасоў гэтых было куды замала, каб мець сваіх у Парламенце ПНР, то лічу, што людзі, якія ажыццяўлялі цэлую справу, зрабілі ўсё, што было ў рэальных магчымасцях. Некаторыя то аж войкнулі ад захаплення, выкліканага, ці то неверагоднасцю, ці то маштабнасцю ўсяго таго, што сталася на Беласточчыне.

Цяпер, калі ў памяці разглядаю тыя дні, бачу, што на эфект, які атрымаўся, працавала ўсяго жменька людзей, якія закінулі асабістыя памкненні на карысць агульнай справы. Галоўным чынам няўхільныя цвярдуны з БАС-а, іхнія сімпатыкі, ды тая частка БГКТ, якая ад пачатку цвяроза ацэньвала сітуацыю. Не балею, аднак жа, над фактам, што выбарчая кампанія не мела масавага характару, як у выпадку польскай апазіцыі. Так яно мусіла быць, і так яшчэ доўга будзе. І БАС, і БГКТ будуць існаваць, як структуры, пустату якіх будуць запаўняць подзвігі адданых справе адзінак замест руплівай працы ўсяе сукупнасці членаў.

На чым абапіраю свае меркаванне? Пакуль што, прашу ў чытача выбачэння, калі недаспадобы яму ўсе мае пахвалы, якія накіраваў я дагэтуль у бок

БАС-а. Выкліканы яны ні маніяй вялікасці, ні пажадлівасцю ўзурпаваць для БАС-а выключную заслугу ў маральнай перамозе беларусаў у выбарах. Я, проста, прызнаю БАС, як фактычную і найвялікшую фізічную сілу нацыянальнага прабуджэння беларусаў на Беласточчыне. Пералічаныя мною важнейшыя этапы дзейнасці Аб'яднання шмат у чым даказваюць гэтага. Ды і ўрэшце самыя выбары паказалі, што неабыякавы Аб'яднанню лёс грамадскасці, якая, баюся, прысуджаная на вечную самоту. Але вяртаюся да перарванай думкі.
Ніякая арганізацыя, у тым ліку і БАС, не можа нармальна функцыянаваць і развівацца без пэўнай вонкавай падмогі, якая, не толькі крышталізуе, але і запэўнівае безпамылковасць усіх імкненняў данай згуртаванай групы людзей. Ні БАС, ні ўвогуле беларусы на Беласточчыне такой падмогі не маюць. Склад думкі Беларускага аб'яднання студэнтаў абгрунтаваны, пазіраючай са старонак замежных выдавецтваў, духоўнай спадчынай БНР ды той манерай дзейнасці, якую ў гэтай дэкадзе выпрацаваў НЗС. Ні першае, аднак, ні другое не могуць, на маю думку, паслужыць апорай, якой так прагна шукае маладая беларуская інтэлігенцыя. Першае - далёка, у чыста фізічным вымярэнні. Другое - безнадзейнае па свайму характару, ды пазбаўленае, так неабходнай усім імкненням беларусаў, маральнасці.
Дзе, у такім выпадку, тая апора? /Некаторыя, нават лягаючы з жанчынай у пасцель не перастаюць думаць пра гэта./ Асабіста, не ўспрымаю ўсяе справы так катэгарычна і таму, мабыць, таксама не ведаю. Не магу, аднак, паўстрымацца ад аднае заўвагі, якую абапіраю на назіраннях польскіх маладзёжных арганізацый. Згаданы раней узыход і росквіт Згуртавання польскіх студэнтаў на пачатку васьмідзесятых гадоў супадае з адзысканнем улады Польскай аб'яднанай рабочай партыяй, а на ідэалогіі гэтай партыі і былі ўзгадаваныя тагачасныя лідэры ЗПС. Сёння Згуртаванне паступова траціць уплыў на жыццё студэнцкіх асяроддзяў. Гэткай тэндэнцыі ўхіляюцца адно некаторыя структуры пры паасобных навучальных установах, дзякуючы, мяркую, частковаму адыходу ад цэнтральнай улады Згуртавання. З другога боку, у мінулым 1988 годзе, студэнцкія асяроддзі Польшчы былі дазвання здамінаваныя Незалежным згуртаваннем студэнтаў - НЗС, якое, сваім характарам,атаесамлівалася з апазіцыйным прафсаюзам "Салідарнасць". Калі, аднак, у час рэгістрацыйных намаганняў, НЗС не атрымаў рашучай падтрымкі з боку "Салідарнасці", ад Згуртавання пачынаюць спаквала адыходзіць, не скажу, што лідэры, але людзі, якія склалі ідэйны базіс, а самая арганізацыя пачынае нагадваць месца гульні дзецюкоў, якія толькі што вырваліся з-пад бацькоўскага нагляду.
Лічу, што для арганізацыяў накшталт БАС, хаця і апалітычных у сваёй аснове, істотнае значэнне маюць ідэалагічная і маральная падтрымкі з боку фактычнай палітычнай сілы. Гляньма, як прыгожа заіснаваў БАС у час выбарчай кампаніі, на хвалі толькі што народжанай палітычнай думкі беларусаў.

Несумненна будучыню БАС-а, ды іншых сарганізаваных форм дзейнасці беларусаў, вырашае сёння магчымасць узнікнення на Беласточчыне такой палітычнай сілы, тым больш, што існуе адпаведны зачатак для яе стварання - Беларускі клуб, галоўны ініцыятар, каб паставіць у выбары незалежныя кандыдатуры. Пакуль што, аднак, БАС патрабуе вялікай колькасці актыўных і адданых яго шляхетным імкненням членаў, каб са шчытом трываць у джунглі арганізацыйнага і палітычнага плюралізмаў Польшчы. Таму заклікаю тут: "БАС для Вас" і "БАС дзеля Вас". Асабіста, непахісна веру ў стойкасць характараў, няўхільнасць, бескампраміснасць і высокія маральнасці БАС-аўскіх лідэраў, веру, што здолеюць датрываць, хаця б і самотна, лепшай пары, бо альтэрнатываў не бачу, а адступаць - няма куды.

Аляксандр Максімюк

# Вырванае з кантэксту

Мінулы год прынёс многа змен і тым самым значна ажывіў асяроддзе. З большага вядомая, хаця б з нашага часопіса, валтузня вакол БАС-у. Уважлівы чытач прыкмеціў напэўна і персанальныя змены ў рэдакцыі "Сустрэч". Арганізацыйныя пераўтварэнні прымусілі нас заглянуць у шуфляды, каб дабіцца нейкага толку ў мінулым і такім чынам удала выстартаваць у будучыню. Сярод навалы папераў увагу нашу прыцягнулі ашмоткі, як дадумваемся, большай цэласці. Іхні змест - асабістыя ўражанні невядомага ўдзельніка Першага з'езда беларускіх студэнтаў у Бельску Падляшскім, які праводзіўся 28 і 29 сакавіка 1987 г. З'езд гэты, як выпадала б для так важнай падзеі, быў шырока рэкламаваны, а яго пастановы і сам ход найпаўней паказаны ў майскай "Прысутнасці" за 1987 г. Знойдзены намі матэрыял згодны з удакументаванымі фактамі, а нават іх шмат у чым пашырае. Але не ў тым справа, каб узмацняць або падкопваць факты, толькі ў тым, каб паказаць іх у іншым святле. А гэта ён і робіць. Стыль і форму пакідаем амаль без змен, здавальняемся ано выпраўленнем граматычных і арфаграфічных недахопаў.

Аўтара занатовак, за друк без ведама і згоды, перапрашаем. Адначасова просім, калі гэта магчымае, адазвацца.

" 28.03.87, гадз. 11.00 - пачатак
- уводнае слова Ю.Ляшчынскага;
- даклад Валіка С. пра нашу кароткую гісторыю;
- голас узялі: Ігар Шчэрба з КРК, Мікола Гайдук, Ян Ваўжыняк /PRON /, дзеці з "тройкі" і моладзь з беларускіх ліцэяў уручылі нам кветкі.

12.00 - тэзісы
Косця: Рада культуры - структуры і юрыдычныя падставы існавання;
Сум: БГКТ а моладзь;
Гандзя: утварэнне студэнцкіх арганізацый у новых акадэмічных цэнтрах краіны;
Валік: выдавецкая дзейнасць бел. студэнтаў;
Пекар: мерапрыемствы культурна-забаўнага характару;
я: шкодная і раскольная дзейнасць;
Данка: становішча ў Беластоку;
Генё: сувязі /кантакты/ з белліцэямі і працуючай моладдзю;
Валя Грыгарук: сувязі з сябрамі з БССР;
Марылька: матэрыяльная і духоўная спадчына і спосабы яе забеспячэння;
Аліцыя: студэнцкая самадзейнасць;

/.../

Пасля абеду, а гадзіне 15.10, даклад Юркі Туронка пра становішча беларускай школы на Беласточчыне.

/.../

Дыскусія.
Алег Латышонак /навуковы супрацоўнік Ягелонскага універсітэта/:
- ахова матэрыяльнай культуры /не пад сілу студэнтам/; больш экспанаваць беларускія элементы нашай зямлі, вывучаць гісторыю людзей, якія нарадзіліся тут;
- сувязь з белліцэямі - пачаць ад спорту;

Андрэй Сцепанюк / V курс бел. філалогіі/:
- закід філалогіі - нічога яна не значыць /скандал!/; мы маем змяніць філалогію /як?/;
- настаўнікі не падрыхтоўваюць як належыць вучняў да разумення нашай сучаснасці; упатрыятызаваць настаўнікаў!

Алік Петручук /белліцэй/:

- не згаджаецца, што бел. справы трэба пачынаць ад спорту;
- штось пра БГКТ /я не зразумеў, што/, здаецца, многа вучняў не знае нават, дзе клуб, а іх дзейнасць - аплочванне складчын;

Яўген Вапа:
- сітуацыя студэнтаў у Беластоку: самі не ведаюць, колькі іх ёсць, не прыходзяць на сходы, пасіўныя, штотыдзень едуць дадому па катлеты;
- выкарыстоўваць для нацыянальных спраў іншыя арганізацыі;

Аня Кандрацюк /бел. філалогія, II курс/:
- пара канчаць з "тутэйшасцю";
- трэба паказаць іншым, што мы існуем, а не толькі дзейнічаць для сябе;
- нічога не робім для развіцця мастацкай самадзейнасці;

Юрка Ляшчынскі:
- інфармацыя і прапаганда ў нашым асяроддзі кульгае, людзі не паінфармаваныя ў час пра мерапрыемствы, але таксама людзі маглі б пацікавіцца тым, што робіцца;

Аляксандр Іванюк /дырэктар гайнаўскага белліцэя/:
- дзякуе за запрашэнне;
- БГКТ і моладзь маюць перад сабою адну мэту;
- у ахове матэрыяльнай культуры можам лічыць на дапамогу БГКТ.

Змена рэгуляміну дыскусіі /могуць быць галасы з залы/.

Аляксей Андраюк /ХТА/:
- чаму ніхто не запрасіў праўлення брацтва;
- брацтва выдала спеўнікі, людзі з царкоўных хораў прымаюць удзел у аглядах бел. песні;
- Царква не служыць нацыянальным інтарэсам;

Яраслаў Іванюк /бельскі белліцэй/:

/.../

- ці не маглі б "Сустрэчы" трапіць у ліцэй;

Валік Сельвесюк:
- расказвае пра "Сустрэчы";
- пра тэлеграму з Гародні ад студэнтаў-членаў клуба "Паходня" /захапленне, зала раве/ і пра самую "Паходню";

Славік Ігнатовіч:
- чаму "Сустрэчы" не могуць друкавацца ў "Ніве" /Валік адказвае/;
- чаму наша студэнцкая арганізацыя мае быць шырэйшай чым брацтва /Валік адказвае - студэнцкі беларускі рух яднае беларусаў/;

Эля Ваўранюк:
- што называеш нацыянальнасцю ў Царкве? /да Аліка Андрэюка/;

Алік Андраюк:
- гаворыць пра развіццё цэркваў у Амерыцы;
- закід, што дэбаты супадаюць з часам багаслужбы.

Валік асадзіў яго ў месцы.
Той надалей гаворыць пра брацтва...

Сябра з Ольштына:
- навязаць супрацоўніцтва з беларусамі ў Амерыцы;

/.../

29.03.87, гадз. 10.45

Даклад Сакрата Яновіча. Як то ў яго, не вельмі вядома пра што. Сум сказаў, што пра мінулае студэнтаў-беларусаў у мінулым. Валодзя Паўлючук крычаў да Сакрата: "ja zniszczę ciebie i twoją Białoruś", за тое, што той не даў яму закурыць.

11.35

Валік гаворыць аб плане сённяшняга дня, прыпамінае тэзісы.

Макс:
- не пад сілу вырашыць нам закранутыя намі тэмы;
- выйсці па-за сваё асяроддзе да польскіх сяброў; чаму БАС не зарэгістраваўся - не было падтрымкі з боку польскіх студэнтаў;
- рыс гістарычны / пра БАС, пра пачатак нашай РК/;
- "партызантка" ў ЗПС, сядзяць там у большасці кар'ерысты; увайсці

ў структуры ЗПС, "зацясацца" ў начальнікі;

/.../

- чаму няма пропаведзі па-беларуску /гавораць нам, што гэта паліты-ка/;

Лёнік Тарасэвіч:

- навязаў коратка да Яраслава /справа назваў мясцовасцяў/;
- БГКТ а моладзь: у дасягненні бел. таварыства уключана дзейнасць студэнтаў; БГКТ перашкаджала студэнтам, адракаліся нас /Барскі, Майсеня і іншыя выходзілі са сходаў, на якіх гуртавалася моладзь/;
- прапанова - запратэставаць супраць перайманя нашых дасягненняў цераз БГКТ;
- каб мы не засталіся ў памяці наступных пакаленняў такімі, як старэйшыя для нас;

Віталій Луба /ГП БГКТ/:

- адказвае на закід Лёніка: БГКТ не засвойвае сабе дасягненняў студэнтаў, а толькі цешыцца з іх; могуць не пісаць пра нашу дзейнасць, калі мы не захочам гэтага;
- БГКТ не прэтэндуе на манаполію ў бел. нацыянальным жыцці, а хоча наладзіць супрацоўніцтва са студэнтамі; запрашае студэнтаў у памяшканні БГКТ;

/.../

Дарота Місеюк:

- мусіць быць наладжанае супрацоўніцтва /толькі між кім а кім?/;

Сцяпан Базылюк:

- справа аховы помнікаў нашай культуры;
- стварыць нейкі банк інфармацыі пра нашу спадчыну;
- утварыць фонд, з зазначэннем на што ідуць грошы /перад усім на спазнанне этнаграфіі/;

Пётр Багроўскі:

- ці ёсць магчымасць стварэння фонду пры Радзе культуры - справа нерэальная на сённяшні дзень;
- калісь нават на паперы быў створаны такі фонд, але мы да яго не мелі доступу;
- утварыць самастойную беларускую студэнцкую арганізацыю;
- не пакідаць структур ЗПС;

Іван Максімюк:

- праўныя аспекты заснавання нашай самастойнай арганізацыі;
- распараджэнні наконт студэнцкіх арганізацыяў - калі існуе старое распараджэнне, могуць адмовіць;

Пётр Багроўскі:

- паклікаць камісію для азнаямлення з існуючымі законамі;

/.../

Пасля перапынку, адчытанне прапаноў пад галасаванне.

Пётр Багроўскі:

- запэўнівае, што няма ніякай пагрозы... усё легальнае... "

На гэтым рукапіс абрываецца. Паясняем, што "самастойная беларуская студэнцкая арганізацыя", утварэнне якой запрапанаваў 29.03.1987 года Пётр Багроўскі, прыняла 29.II.1988 г. форму БАС-у. Згаданы ў тэксце БАС адносіцца да 1981 г.

/рэд./

# мост на Нарве

Першая вялікая хваля беларускіх эмігрантаў у Паўночную Амерыку прыйшла яшчэ ў канцы XIX стагоддзя. Аднак, незалежна ад таго, што з гэтага часу тысячы новых ураджэнцаў Беларусі прыязджала сюды шукаць лепшай долі, слядоў іх нацыянальнага жыцця засталося няшмат. Становішча змянілася пасля вайны. У канцы саракавых, пачатку пяцідзесятых гадоў прыехала ў ЗША і Канаду больш чым 100 000 новых эмігрантаў, якія свядомы нацыянальнага паходжання стварылі інстытуцыянальныя асновы для культурнага і грамадскага жыцця беларускай этнічнай групы. Сёння можна ўжо гаварыць пра другое, а на'т трэцяе пакаленне беларусаў у Амерыцы, якія нарадзіліся і выхаваліся ў гэтай краіне. Вялікая іх частка захавала мову бацькоў і пачуццё нацыянальнасці.

Юрка Азарка - нарадзіўся ў штаце Нью-Джэрсі, вучыўся ў Ратгерс Юніверсіты, Нью-Брансвік, зараз працуе як інжынер у Нью-Йорку. З'яўляецца старшынёй Арганізацыі беларуска-амерыканскай моладзі /АБАМ/.

Сустрэчы: Ваша арганізацыя дзейнічае ўжо...
Юрка Азарка: ...38 гадоў. Раней называлася яна: Згуртаванне беларускай моладзі ў Амерыцы. Назва была зменена ў 1967 годзе і гэта, у нейкай меры, адлюстроўвае таксама дух часу.
С.: Як гэта разумець?
Ю. А.: Сябры арганізацыі гэта перад усім маладыя людзі, народжаныя ў ЗША і Канадзе і ўзгадаваныя тут. Яны ўжо амерыканцы, але таксама і беларусы.
С.: Як можна быць амерыканцам і беларусам адначасова?
Ю. А.: Можна. Амерыка гэта своеасаблівая краіна. Тут амаль усе, у нейкім сэнсе, эмігранты і кожны адчувае сябе таксама гаспадаром. У першым нумары часопіса "Беларуская моладзь" / Byelorussian Youth / можна прачытаць: "Няма ўжо месца тэорыі "амерыканскага катла", у якім растапляюцца і асімілююцца ўсе нацыі. /.../ Вывучэнне этнічнай спадчыны дапамагае чалавеку пачуць гордасць за сваё паходжанне і за сябе, як адзінку." Гэта словы сенатара Швейкэра з Пенсільваніі і далей каментар рэдакцыі: "Мы перакананы ў тым, што выказванне сенатара, гэта праўда."
С.: Раскажы, калі ласка, крыху больш пра ваш часопіс.
Ю. А.: Часопіс "Беларуская моладзь" выдаваўся ўжо ў пяцідзесятыя і шасцідзесятыя гады. Потым было некалькі гадоў перапынку і, пачынаючы з восені 1972 г., часопіс ізноў пачаў паказвацца рэгулярна, як квартальнік. Часопіс рэдагавала ўжо іншая калегія. Большасць матэрыялаў друкавалася на ангельскай мове, толькі некаторыя па-беларуску. Былі гэта артыкулы пра гісторыю Беларусі, пераклады беларускай паэзіі і прозы, інфармацыі пра цікавейшыя падзеі на Беларусі. Часопіс даваў таксама агляд жыцця беларуска-амерыканскай моладзі, даваў магчымасць друку ўласных літаратурных твораў, якія былі ўжо аднак пісаны пераважна па-ангельску. Гэта быў часопіс патрэбны не толькі нам. Думаю, што быў ён таксама добрай крыніцай ведаў пра Беларусь і беларускую эміграцыю для амерыканцаў. Часопіс разсылалі мы ў многія бібліятэкі. На жаль, ужо некалькі гадоў не выходзіць. Аднак мы маем намер яго ўзнавіць.
С.: Пераглядаючы "Беларускую моладзь" за гады 1972 і 1973 я бачыў шмат артыкулаў пра Вольгу Корбут. Чаму якраз такое зацікаўленне ёю?
Ю. А.: Вольга Корбут на Алімпійскіх гульнях у Мюнхене ў 1972 г. заваявала некалькі залатых медаляў і сталася вядома ўсяму свету. Вольга паходзіць з Гародні, яна беларуска і што самае важнае падкрэслівае

сваё паходжанне. Пабачыць па тэлебачанні, што выйграў прадстаўнік Беларусі, гэта для нас вялікая радасць. Гэта магчымасць ганарыцца сваім паходжаннем перад сябрам-амерыканцам. Імя Беларусі ўсё яшчэ ў свеце не з'яўляецца паўсюдна вядомым і таму, тым больш, цешыць гэткая нагода. З Вольгай, зрэшты, мы знаёмы асабіста. Яна якраз зараз знаходзіцца ў Нью-Йорку, у гасцях у Данчыка. Ейны муж, Леанід Барткевіч - сябра вядомых "Песняроў", разам з нашым спеваком працуюць над супольнаю пласцінкаю. Шкада толькі, што Вольга не гаворыць па-беларуску. Нам тут вельмі патрэбныя "героі", вядомыя беларусы, каб пахваліцца перад другімі, каб адчуць сябе больш упэўнена. Амаль кожны народ мае такіх герояў і мы таксама іх маем, толькі не заўсёды пра іх ведаюць. Вось нпр. Касцюшка, выдатная постаць амерыканскай рэвалюцыі, быў ураджэнцам Беларусі і сам называў сябе ліцьвіном, што ў той час, глянуўшы на гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, абазначала беларуса. А тут усе ведаюць Касцюшку як паляка.
С.: Усё ж такі яго месца ў гісторыі польскага народа вельмі важнае.
Ю. А.: Гэта нашая супольная гісторыя. Справа не ў тым, каб спрачацца "хто чый", бо гэта да нічога не вядзе. Згода, ён важная постаць у польскай гісторыі і гэтаму ніхто не будзе пярэчыць. Але па нацыянальнаму паходжанню - беларус. Мы, славяне, наогул зашмат тут спрачаемся за дробязі. Лічу, што разам мы маглі бы зрабіць многа больш. Але ж, вядома, лягчэй рысаваць палітычныя карты і потым сварыцца за межы. Не так даўно, бачыў я нпр. украінскую газету паводле якой Жыровічы, разам з усёй Наваградчынай, знаходзяцца ў паўночнай Украіне.
С.: Гэта тым болей абсурднае, што не мае аніякага значэння, а за свае словы не бярэцца таксама аніякай адказнасці. Вяртаючыся аднак да "беларуска-амерыканскай моладзі". Хочацца ведаць, як далёка зацікаўлены вы роднай зямлёй вашых бацькоў. Інакш кажучы, ці ты, або нехта з тваіх сяброў ездзілі ў БССР або на Беласточчыну, каб пабачыць, як сапраўды выглядае тая зямля цяпер, як дыхае, чым жывуць там людзі?
Ю. А.: Паколькі я ведаю, ніхто з маладых, апрача аднаго Данчыка, не ездзіў. Гэта даволі дзіўная справа, бо тэарэтычна перашкод няма. Толькі што далёка і крыху дарагавата. Аднак здаецца не ў тым справа. Думаю, што вялікі ўплыў мелі тут бацькі, якія з аднаго боку перахавалі ў памяці ідэалізаваны вобраз Беларусі, а з другога засталіся ім не найлепшыя ўспаміны тадышняй рэчаіснасці, звязаны найчасцей з часінай сталінскага рэжыму або польскага панавання ў Заходняй Беларусі. Другая справа, гэта адносіны да нас з боку розных устаноў у БССР. Тым не менш, некаторыя старэйшыя ездзілі туды і факт адсутнасці маладых поўнасцю не выяснены.
С.: Большасць маіх знаёмых добра валодае беларускай мовай, хаця чуваць крыху амерыканскі акцэнт, але здаецца асоб, якія чытаюць, ці пішуць па-беларуску зусім мала.
Ю. А.: Гэта праўда. Хаця многія хадзілі ў беларускія школкі, чытанне кірылічнага шрыфту для многіх з'яўляецца праблемай.
С.: А якое значэнне мае для маладых царква, так важная для старэйшага пакалення?
Ю. А.: На жаль, я лічу, што на жаль, усё меншае. Па сутнасці многія маладыя ходзяць у царкву толькі на Каляды, на Вялікдзень, ідуць туды вянчацца, ці хрысціць дзіця. Не клапоцяцца таксама пра яе ўтрыманне, ведаючы, што і так зробяць гэта старэйшыя. Гэта мусіць змяніцца.
С.: Мы чулі, што вашая танцавальная група "Васілёк" збіраецца на Беласточчыну. На маю думку такі візіт быў бы вельмі пажаданы, а беларуская моладзь сустрэла бы вас там вельмі сардэчна.
Ю. А.: Пра такую паездку гаварылася ўжо даўно, але сапраўды, маем надзею, што ў гэтым годзе мае гэта рэальны шанц на здзяйсненне. У верасні, у Канадзе, на сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі мы пазнаёміліся з калектывам "Дубіны". Іх кіраўнік, Пётр Скепка, абяцаў нам дапамогу ў фармальных справах, якія нам выдаюцца даволі скам-

плікаванымі.
С.: Жадаем удачы. I апошняе пытанне: пасля першай вайны, калі паўстала польская дзяржава, шмат палякаў, якія раней пражывалі за мяжой - перад усім інтэлігенцыя - вярнуліся ў краіну, каб свае веды і талент аддаць бацькаўшчыне. Ці можаш сабе ўявіць падобнае становішча? Вось напр. ты інжынер, спецыяліст ад будовы мастоў, адукаваны ў краіне дзе самы высокі тэхнічны і тэхналагічны ўзровень прадукцыі, ці можаш паставіць сябе ў падобным становішчы?
Ю. А.: Цікавае пытанне. Я ніколі не думаў пра гэта. Здаецца аднак, што я ахвотна паехаў бы ў Беларусь. Ды думаю, што не адзін я. Так, гэта было бы добра пабудаваць нейкі прыгожы мост на Нёмане, ці Нарве. Я ўпэўнены, што хацеў бы гэтага і маю надзею, што гэта споўніцца.
С.: Дзякую за размову.

/Інтэрв'ю ўзяў наш пастаянны карэспандэнт у ЗША - Валянцін Сельвясюк, кастрычнік 1988, Нью-Брансвік.
Жыццё, пакуль складаўся гэты нумар часопіса, дапісала працяг інтэрв'ю. Юрка Азарка, разам з танцавальным калектывам "Васілёк", пабываў улетку на Беласточчыне. рэд./



BYELORUSSIAN YOUTH
БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ

Vol. 1, № 2 (28) Winter 1972-73 Год. 1, Но. 2 (28)

## SYMON THE MUSICIAN

### *FROM INTRODUCTION TO BOOK III*

*O my land, my land so lovely,*
*Well-loved corner of my race!*
*What in God's world is more beloved*
*Than these banks, with brightness graced,*
*Where the rivers glitter silver,*
*Where the woods hum murmuring song,*
*Where buckwheat breathes honey, quivering*
*Cornfields murmur on and on;*
*Than the monuments unending*
*Of the marshes, of thy pools,*
*Where wide space its thoughts is blending*
*Under freshets gushing cool,*
*Where the osiers weep in autumn,*
*Where in spring bright meadows blow,*
*Where birch-trees in a path long-trodden*
*Like a lovely highway grow?*

# нарыс гісторыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне

/заканчэнне; пачатак у № IO-II/

Юры Туронак

Летам I944 г., пасля адступлення немцаў, становішча было даволі складаным. Не было вядома, як будзе вызначана дзяржаўная граніца, у сувязі з чым на Гайнаўшчыне арганізатарамі школ часта былі савецкія партызаны, а ў іншых раёнах - органы ПКНВ. Дарэчы, фронт яшчэ стаяў на Вісле, у Варшаве былі немцы, а ведамства асветы ПКНВ у Любліне толькі пачынала разгортваць сваю дзейнасць. У такіх умовах адноўленыя ў час савецкай улады і часткова праіснаваўшыя ў час нямецкай акупацыі беларускія школы цяпер проста працягвалі сваю дзейнасць. Гэты стан фактычны пакуль што не выклікаў засцярог люблінскіх улад, якія больш увагі прысвячалі арганізацыі сярэдніх школ. Паводле афіцыйных даных, у I944/45 г. працавалі на Беласточчыне: 8I школ з беларускай мовай навучання і I2 школ двухмоўных або з прадметам беларускай мовы. Апрача таго былі адкрыты беларускія гімназіі ў Бельску і Гайнаўцы і Руска-беларуская гімназія ў Беластоку.

Не будзем займацца тагачаснымі цяжкасцямі ў працы беларускіх школ, паколькі ў вялікай меры адносіліся яны і да польскіх школ. Усюды не хапала кваліфікаваных настаўнікаў, падручнікаў, памяшканняў і г.д. Скажам толькі, што для нармальнага функцыянавання беларускага школьніцтва ў новай Польшчы найбольш неабходнай была адпаведная перспектыва, якая выходзіла б з пастаноўкі нацыянальнага пытання. Такая пастаноўка аформілася даволі хутка - на працягу I945/46 гадоў - аднак яе мэтай быў курс на аднанацыянальную дзяржаву. Пачаліся справы нягодныя нашай цывілізацыі: людзі высяляліся і перасяляліся - прымусова пазбаўляліся сваёй спрадвечнай айчыны. Летам I946 г. паўстаў у Варшаве праект таксама прымусовага перасялення беларусаў з Беласточчыны на ўсход. Такім чынам нацыянальная палітыка новай "дэмакратычнай" Польшчы ў той час была непараўнальнай з палітыкай даваеннай Польшчы. У такім становішчы непатрэбным было і беларускае школьніцтва. На працягу I946 і I947 гг. было яно ліквідаванае. Як бачым, пазнейшыя абвінавачанні Гамулкі ў нацыяналізме не былі беспадстаўнымі.

Можна заўважыць, што ў гэтай антыбеларускай акцыі дзейнасць дзяржаўных органаў пакрывалася з дзейнасцю падполля. Падполле тэрарызавала беларусаў, змушаючы іх да выезду з Беласточчыны, у Нараўцы быў забіты настаўнік Аляксандр Валкавыцкі, у Страшаве публічна скатаваны настаўнік Мікола Лебядзінскі, у Старым Ляўкове пабітая настаўніца Марыя Лях, у Міхалове стэрарызаваны Аркадзь Зіневіч, які вымушаны

быў спыніць навучанне і г.д. Некаторыя настаўнікі, якіх не дасягнула рука падполля, выкідаліся школьнымі інспектарамі са школ, калі не маглі вучыць па-польску. Такога не перажывала беларускае школьніцтва на Беласточчыне ад пачатку свайго існавання.

Можа гэта паказацца дзіўным, а сёння непапулярным ці нават непрыстойным, што выпраўленне гэтай нацыяналістычнай палітыкі адбылося ў працэсе "сталінізацыі" палітычнага жыцця ў Польшчы. У чэрвені 1949 г. Сакратарыят ЦК ПАРП прыняў пастанову, якая зыходзячы з грамадскага прызнання роднай мовы абавязала міністра асветы забяспечыць дзецям беларускай нацыянальнасці на Беласточчыне школьнае навучанне на беларускай мове. Справа аднаўлення беларускага школьніцтва стала справай дзяржаўнай.

У выніку энергічнай дзейнасці партыйных, адміністрацыйных і асветных улад, беларускае школьніцтва было хутка адноўлена. Ужо ў 1954/55 г. на Беласточчыне было 66 пачатковых школ з беларускай мовай навучання і 90 школ з прадметам беларускай мовы, г.зн. разам 156 школ, у якіх вывучала родную мову 9128 вучняў. Арганізавана таксама 5 сярэдніх школ, у тым ліку: 3 агульнаадукацыйныя ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску, Гайнаўцы і Міхалове і беларускія паралельныя класы ў Бельскім педліцэі і Беластоцкім ліцэі выхавацельніц дзіцячых садоў з агульнай колькасцю 878 навучэнцаў.

Заўважым, што ў ходзе ажыццяўлення гэтай акцыі ўлады не кіраваліся пажаданнямі бацькоў, але перш за ўсё крытэрыем роднай мовы. Па-за дыскусіяй была абавязковасць яе навучання, так як не выклікала сумнення абавязковасць навучання польскай мовы ці, скажам, матэматыкі. Прынцып добраахвотнасці стасаваўся толькі да выбару бацькамі тыпу школы, у якой вучыліся іх дзеці, г.зн. школы з беларускай мовай навучання ці польскамоўнай школы з прадметам беларускай мовы. Аднак гэтая добраахвотнасць была ў значнай меры тэарэтычная: на практыцы справа рашалася ўладамі на аснове аналізу нацыянальнай структуры насельніцтва паасобных школьных раёнаў. Захаваліся архіўныя дакументы, якія сведчаць, што абодва тыпы школ загадзя планаваліся школьнымі ўладамі.

Характэрнай рысай гэтай акцыі была яе паспешлівасць. Цэнтральныя ўлады былі зацікаўлены развіццём беларускага школьніцтва, у сувязі з чым ваяводскія і павятовыя органы імкнуліся задаволіць гэтую зацікаўленасць і выказацца вынікамі сваёй дзейнасці, ствараючы ў некаторых выпадках беларускія школы на паперы. У палове 50-тых гадоў выкарыстанне беларускай мовы выказвала вялікія розніцы ў паасобных школах і класах, а таксама ў навучанні паасобных прадметаў. Не хапала падручнікаў і адпаведных настаўнікаў.

Беларускае насельніцтва адносілася да гэтай акцыі даволі стрымана. Па-першае, ва ўмовах стабілізацыі пасляваеннай рэчаіснасці яно разумела, што ніякага грамадскага статусу беларуская мова не атрымала, што ў дзяржаўным жыцці была яна непатрэбная і што веданне польскай мовы шмат важнейшае, паколькі, ад таго ў немалой меры залежыў старт дзяцей у жыццё. Па-другое, праяўлялася нявера ў трываласць новага курсу школьнай палітыкі. Урэшце валюнтарызм і гонка за паказчыкамі не садзейнічалі павышэнню аўтарытэтнасці беларускай мовы ў школе.

Гэтыя фактары, не без удзелу антыбеларускіх настрояў восенню 1956 абумовілі нестабільнасць створанай адукацыйнай сістэмы. Пачынаючы ад 1956 г. назіраецца працэс ліквідацыі школ з беларускай мовай навучання, якія вяртаюцца да становішча польскамоўных школ, захоўваючы толькі прадмет беларускай мовы. У некаторых выпадках змяняўся толькі шыльд школы, паколькі і раней беларуская мова ўжывалася ў іх толькі часткова. У выніку, у гадах 1954/55 - 1960/61 лік школ з беларускай мовай навучання зменшыўся з 66 да 39, затое лік г.зв. прадметных школ узрос з 90 да 136. Аднак гэтая рэструктурызацыя мела адносна невялікі ўплыў на рост і агульны абсяг навучання беларускай мовы, якую ў 1960/61 г. вывучала ў 175 школах 10.6 тысяч дзяцей. Адначасова паправілася за-

беспячэнне школ падручнікамі, раслі кваліфікацыі настаўнікаў, чаму спрыяла праца Бельскага педліцэя, Беластоцкай настаўніцкай студыі і неўзабаве кафедры беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце, створанай у 1956 годзе. Істотнага значэння набывала дзейнасць БГКТ і "Нівы", якая садзейнічала павышэнню нацыянальнай свядомасці насельніцтва.

Усё ж сумненні насельніцтва ў нестабільнасці пазітыўнай дзяржаўнай палітыкі не былі беспадстаўнымі. 17 лістапада 1962 г. было выдадзена міністэрствам асветы распараджэнне, якое адмяняла абавязваючы да гэтай пары прынцып абавязковага навучання роднай мовы для дзяцей беларускай нацыянальнасці і ўпершыню акрэсліла яе ў г.зв. прадметных школах як дадатковы, неабавязковы прадмет. Адначасова міністэрства дапускала "неабходнасць" звальняць вучняў з заняткаў беларускай мовы па просьбе бацькоў, але нават на падставе рашэння самых кіраўнікоў школ. Няцяжка ўявіць, што такое распараджэнне адлюстроўвала імкненне ўлад да дэстабілізацыі навучання беларускай мовы ў "прадметных" школах і абмежаванне абсягу яе навучання.

Змена дзяржаўнай палітыкі ў гэтай справе не была выпадковай. Як ведаем з паведамленняў мінскай прэсы за апошнія гады, на пачатку 60-тых гадоў, г.зн. у той самы час, пачаўся паход супроць беларускай мовы таксама ў БССР у сувязі з памылковай тэорыяй аб непазбежным адміранні моўных "асаблівасцяў" і зліцці народаў СССР. Дайшло да таго, што гаварыць па-беларуску лічылася ўжо "нацыяналізмам". У выніку пачалася хуткая русіфікацыя беларускіх школ. Можна думаць, што згаданае распараджэнне міністэрства асветы было звычайнай паслядоўнасцю новага становішча ў БССР.

Новыя правілы фармальна пагаршалі становішча прадмета беларускай мовы, аднак да канца 60-тых гадоў не выклікалі адчувальных змен. Было гэта рэзультатам супроцьдзеяння ваяводскага камітэта ПАРП, у прыватнасці яго першага сакратара Аркадзія Лашэвіча, які разумеў магчымыя шкодныя эфекты гэтага распараджэння. У выніку, абсяг навучання беларускай мовы ў пачатковых школах выказваў да канца 60-тых гадоў значную стабільнасць на адносна высокім узраўні 10-11 тысяч вучняў у год.

Усё ж была гэта толькі паўмера, якая прадоўжыла дзеянне адукацыйнай сістэмы, аднак не рашала справы прынцыпова, бо вырашыць яе не магла. Яна рашалася на больш высокіх узроўнях, пры чым даваліся тлумачэнні, што ўсё адбываецца згодна з воляй бацькоў. Тым часам адмаўленне дзяржавы ад актыўнай палітыкі ў гэтай справе ставалася штораз больш відавочным. На пачатку 60-тых гадоў адбылася ліквідацыя аддзела школ з няпольскай мовай навучання ў міністэрстве асветы, а ў 1963 годзе міністэрства рашыла спыніць выпуск беларускамоўных падручнікаў арыфметыкі, якая тады яшчэ ў многіх школах навучалася па-беларуску. Такім чынам "добраахвотныя" рашэнні бацькоў аб ліквідацыі школ з беларускай мовай навучання планаваліся школьнымі ўладамі загадзя.

Радыкальна пагоршылася становішча школьніцтва на пачатку 70-тых гадоў. Былі на тое асаблівыя прычыны. У той час праводзілася ў Польшчы вялікая адміністрацыйная рэформа, у прыватнасці былі ліквідаваны паветы і павятовыя ўстановы. Адбыліся асабовыя змены ў кіраўніцтве ваяводскага камітэта ПАРП. Зноў ажыла "тэорыя" аб аднанацыянальнай дзяржаве, афіцыйна пракламавана на III пленуме ПАРП у 1976 годзе. Прадстаўнікі партыі і міністэрства ўнутраных спраў на з'ездах БГКТ у 1972 і 1976 гг. пазбягалі нават тэрміну "беларуская нацыянальная меншасць". Адбылася ліквідацыя беларускага музея ў Белавежы і эстраднага калектыву "Лявоніха".

У гэтай завостранай атмасферы, якая адпавядала тэндэнцыям у Савецкай Беларусі, адбылося рэзкае абмежаванне беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Дасягалася гэтага рознымі спосабамі. Адным з іх было выкарыстанне працэсу школьнай рэформы, якая праводзілася ў першай палавіне 70-тых гадоў. У ходзе ажыццяўлення гэтай рэформы было ліквіда-

вана 75 малалікіх школ, у якіх навучалася беларуская мова. Іх вучні былі пераведзены ў іншыя школы, пры чым пэўнай іх частцы школьныя ўлады не забяспечылі навучання беларускай мовы ў новых школах. Апрача гэтага у першай палавіне 70-тых гадоў было адміністрацыйным парадкам спынена навучанне беларускай мовы ў 26 школах, якія ў той час не былі ліквідаваны ў рамках рэформы.

Апрача таго ў 1971 годзе адбыліся дзве іншыя важныя падзеі. Адной з іх была поўная ліквідацыя школ з беларускай мовай навучання. Паколькі гэтага не патрабавалі бацькі, былі выкарыстаны ўслужлівыя кіраўнікі БГКТ, якія 28 кастрычніка 1971 года выслалі ў міністэрства асветы пісьмовую прапанову рэарганізаваць гэтыя школы ў польскамоўныя школы з дадатковым прадметам беларускай мовы. Заўважым, што згодна з законам аб гэтым маглі рашаць толькі бацькі, а не БГКТ. Такім чынам прапанова ГП БГКТ была бяспраўная, аб чым міністэрства ведала, аднак гэта яму не перашкаджала. Заўважым яшчэ, што ў школах з мовай навучання беларуская мова была абавязковай для ўсіх вучняў, тады як у польскамоўных школах лічылася яна неабавязковым прадметам, што стварала большыя магчымасці маніпуляцыі.

Такой маніпуляцыяй было чарговае распараджэнне міністэрства асветы ад 22 лютага 1971 года, якое йшло далей згаданага распараджэння з 1962 года. У прыватнасці, замест ранейшага тэрміну "добраахвотнасці", уводзіла яно новае паняцце "поўнай добраахвотнасці", а таксама патрабаванне штогадовых запісаў вучня на беларускую мову і пастанаўляла, што запісаны вучань можа спыніць вучобу роднай мовы ў кожным класе перад чарговым школьным годам. Быў гэта ўжо нічым не маскаваны ўдар па навучанні беларускай мовы.

Як адбыліся гэтыя мерапрыемствы школьных улад на абсягу навучання беларускай мовы? Адказ на гэтае пытанне дае статыстыка. Калі ў 1970/71 школьным годзе яе вывучала 10.7 тысяч дзяцей, то ў 1980/81 г. ужо толькі 3.4 тысячы. У 1987/88 г. беларускую мову вывучае ў 58 школах і іх філіялах 3.7 тысяч вучняў, то сведчыць аб тым, што ў 80-тыя гады не наступіла ў гэтай галіне істотная паправа. Такім чынам гэты лічбовы стан навучання беларускай мовы з'яўляецца найніжэйшым ва ўсёй 70-гадовай гісторыі. Можна думаць, што такое становішча адпавядае ўраду для яго справаздачаў у Арганізацыю Аб'яднаных Нацыяў, якія маюць паказваць, што згодна з Гэльсінскім пагадненнем, Польшча рэспектуе правы нацыянальных меншасцяў.

У сваю чаргу, кіраўнікі БГКТ не толькі не пратэставалі супроць гэтых дзеянняў /аб чым у чэрвені 1987 г. паведаміла міністэрства асветы/, але - як ужо было сказана - аказалі ганебную падтрымку ў ліквідацыі школ з беларускай мовай навучання. Усё ж былі і пазітыўныя дзеянні з боку БГКТ. Маю на думцы вядомы мемарыял, скіраваны восенню 1981 г. да першага сакратара ЦК ПАРП, які прамаўчала "Ніва", а ў якім м.інш. ГП БГКТ патрабавала запэўніць абавязковае навучанне беларускай мовы ў тых школах, у якіх вучні беларускай нацыянальнасці складаюць прынамсі 50% усіх вучняў дадзенай школы. Аднак гэтае патрабаванне было ігнараванае, пасля чаго, 23 верасня 1981 г. міністр асветы і выхавання выдаў чарговае распараджэнне. Праўда, адмяніла яно ранейшае патрабаванне штогадовых запісаў вучняў на прадмет беларускай мовы, аднак надалей захавала магчымасць звальняць яго з навукі роднай мовы ў кожным класе школьнай вучобы. Такім чынам захаваўся важны элемент дэструкцыі працэсу навучання. Так што гэтая ініцыятыва ГП БГКТ, не з яго віны, не дала жаданых вынікаў.

Не магу закончыць свайго выступлення аптымістычным прагнозам. Справа навучання беларускай мовы па сутнасці пушчана на самацёк і ў найбольшай меры залежыць ад кіраўніцтва школ і настаўнікаў. Гледзячы на ўсе школы, перш за ўсё заўважаецца небывалы валюнтарызм: у адных працэнт школьнікаў, якія вывучаюць беларускую мову, стабільны, у іншых расце або падае. Аб працэсе навучання і экзекваванні ведаў мне вядома няшмат, хаця цікава было бы пачуць у дыскусіі нпр. ці недастатко-

вык веды вучняў па беларускай мове рашаюць аб яго прамоцыі? Баюся,што ў такім выпадку, ён хутка пастараўся б зусім звольніцца з навукі гэтага прадмета.

Спадзяюся, што прадстаўлены кароткі агляд дае дастатковую падставу для сцвярджэння, што функцыянаванне і абсяг беларускага школьніцтва на Беласточчыне быў на ўсіх этапах яго гісторыі несумненным рэзультатам дзейнняў улад і іх інтарэсаў, а не зацікаўленых бацькоў. Не з'яўляецца выключэннем і пасляваенны перыяд. Таму, ва ўмовах створанай сістэмы дэструкцыйных мерапрыемстваў, тлумачэнні школьнай адміністрацыі, што адказнасць за развал беларускага школьніцтва нясуць бацькі школьнай моладзі, можна лічыць крывадушнасцю. Беларускае насельніцтва ніколі не выступала супроць навучання беларускай мовы, хіміі ці геаграфіі, калі ведала, што з'яўляюцца яны абавязковымі прадметамі. І цяжка яго вінаваціць за тое, што на створанай уладамі пахілай плоскасці навучанне беларускай мовы нібыта само коціцца ўніз.

Пытанне беларускага школьніцтва на Беласточчыне мае большае, чым агульна думаецца, палітычнае вымярэнне і з'яўляецца неразлучнай часткай лёсу беларускай мовы і культуры ўвогуле, у прыватнасці ў Савецкай Беларусі. Лічу, што перспектыва гэтага школьніцтва залежыць у вялікай меры ад выніку барацьбы, якую ў апошнія гады патрыятычныя сілы Беларусі ўзнялі супроць сучаснай мураўёўшчыны.

# Маніхвэст Тутэйшых

Таварыства маладых літаратараў пры Саюзе пісьменнікаў БССР узнікла ў 1987 годзе. "Тутэйшыя" аб'яднала маладых людзей,зацікаўленых адраджэннем беларускай мовы і літаратуры, якія страцілі "аўтарытэт і прэстыж у вачох народу".

Першыя сустрэчы ТМЛ адбываліся на прыватных кватэрах, дзе моладзь супольна чытала свае творы, гутарыла пра будучыню і ролю літаратуры ў перажываючай змены Беларусі. Неўзабаве з'явілася магчымасць сустракацца ў Доме літаратараў. На першым спатканні ў гэтым памяшканні быў прачытаны "Маніхвэст Тутэйшых". Сярод прысутных выклікаў ён шмат кантраверсій. Па сённяшні дзень не ўсе члены згаджаюцца з яго зместам.

Дзейнасць "Тутэйшых", гэта не толькі літаратура. Іх відаць ва ўсіх мерапрыемствах, арганізаваных нефармаламі ў Беларусі і па-за яе межамі. Яны чытаюць там свае творы, агітуюць за беларускай мовай у школах, за пасыланнем дзяцей у беларускія класы. "Тутэйшыя" выдаюць бюлетэнь "Кантроль", у якім змяшчаюць хроніку важнейшых падзей у Беларусі,свае погляды, творы.

Аднак прыярытэтнай справаю лічаць "Тутэйшыя" літаратуру. Пасля ўзнікнення Беларускага народнага фронту "Адраджэнне" могуць прысвяціць ёй большую ўвагу, не рэзігнуючы аднак з падтрымкі Фронту. Усё большае прызнанне здабываюць паасобныя члены "Тутэйшых". Некаторыя былі прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР /Адам Глобус, Анатоль Сыс/.

/рэд./

# МАНІХВЭСТ ТУТЭЙШЫХ

I. Літаратура - гэта Бацькаўшчына. Дзеля сапраўднага творцы няма разьбегу паміж ідэалам нацыянальным й ідэалам літаратурным. Набліжаючы гэты ідэал канкрэтнымі грамадзкімі ўчынкамі і творчымі актамі, мы, тым самым, узносім яго, як найвышэйшую жыцьцёвую патрэбу. Ён не дасягнуты і недасяжны.

2. Са сьмерцю Караткевіча беларускі народ страціў апошняга прарока, адзінага бескампраміснага носьбіта нацыянальнага ідэалу, а наяўна "беларускія пісьменнікі" страцілі ў вачох народа апраўданьне сваёй наяўнасьці.

3. Са сьмерцю прарока і зусім раскрылася тая праўда, што ўсе гэтыя "літаратары" - утрыманцы на шыі беларускага народа. Упалі фігавыя лісткі "надзённых палітычных патрэбаў", "паўпатрыятызму" і асабістай баязьлівасьці. Над карытам літаратуры стаў відаць заклік: "Жарэце, абы не ўсчыналі віску!"

4. Яны самі адмовіліся ад усялякае адказнасьці за лёс беларускага народу, як такога.

5. Яны аддалі нашую мову ў непадзельную манаполію сродкам масавай інфармацыі і інстытуту мовазнаўства. На мове газэтаў і слоўнікаў немагчыма ані гаварыць, ані ствараць духоўныя каштоўнасьці. гэта бязродная трасянка.

6. Яны дапусьцілі скажэньне і замоўчваньне нашае гісторыі, якая ў выніку стала другаснай, утрыманкай на шыі гісторыі рускага народа. Памяць беларускае літаратуры, якая ад пачатку свайго была грамадзянскай і змагарнай, якая ў 30-я гады пайшла на сьмерць за нацыянальны ідэал, не дазваляе называць прыкарытных беларускай літаратурай. Яны адгарадзіліся ад гэтай памяці.

7. Толькі сыта адрыгваючы, яны вешаюць на сябе ўзнагароды і ганаровыя біркі "народных", "лаўрэатаў", "заслужаных", хоць заслужылі адно ганьбы свайго народа.

8. Прагледзеўшы, як сканала мова ў вуснах народу, разгубіўшы ўсе нацыянальныя школы, не падрыхтаваўшы жыцьцяздольнае зьмены, аблуднае "пакаленьне" сыходзіць у нябыт. Па ім - мора запыленых кніжак і поўная дыскрэдытацыя ўсяго свайго, усяго адметна-беларускага, усяго сьвятога, што ёсьць на нашай зямлі. Па ім - несамастойнасьць, другаснасьць беларускае мовы, гісторыі і літаратуры, якая выходзіць у сьвет і бярэ з сьвету, як падданая рускай мовы, гісторыі і літаратуры.

9. Між тым, прарок не сышоў без настаўнікаў. Мы памкнемся зрабіць усё што можам і трошачкі больш, каб вярнуць народу ягоны нацыянальны ідэал, каб вярнуць літаратуры яе аўтарытэт і прэстыж у вачох народу. І няхай ня сытая "крытыка", а час і народ ацэньваюць нашыя здольнасьці. Мы не наступнікі прыкарытных. Таму хай яны ўзьненавідзяць нас, так як ненавідзелі ў прароку сябе.

x x x

10. "Кожны памыляецца, і шукае, і знаходзіць сваё Слова сам". Наш Маніхвэст Тутэйшых - ад першае асобы - ад кожнага з нас.

11. Ідэал набліжаецца канкрэтнымі маімі справамі і аддаляецца з уласным маім ростам і поступам.

12. Я дбаю пра нацыянальную школу: пачатковую, сярэднюю, вышэйшую; пра мову для ўсіх і ад усіх; пра рэгенерацыю роднай гісторыі. На Беларусі я заўсёды і паўсюль карыстаюся беларускай моваай. У творах я імкнуся ўбачыць будучыню Бацькаўшчыны, вучуся ў прарока, дбаю пра зьмену.

13. Я пішу для людзей, а не дзеля цэнзуры і рэдактараў, не дзеля вузкага прыкарытнага кола. Я пішу не дзеля публікацыі ў рэтраградных часопісах і выдавецтвах, дзе кожная самастойная думка лічыцца або памылкай, або палітычным злачынствам. Я пішу ў самародныя альманахі, начытваю на магніта- і відэамагнітафоны, я чытаю ў кожным мейсцы, дзе зьбіраецца народ. Людзі - мой экзаменатар, мой крытык і дарадца. Стануць пе-

рапісваць і пераказваць - гэта вышэйшая адзнака маёй творчасьці. Я ўлічваю, што разумовы ўзровень сёньняшніх людзей значна перавышае мысьленьне наяўных "беларускіх" выдаўцоў, рэдактараў і крытыкаў. Таму характэрныя для наяўнай літаратуры прымітывізм і халтура для мяне недапушчальныя.

I4. "Нацыянальнай сьпецыфікай" прыкарытных з'яўляецца ілжэвяскоўшчына. Жывучы ў горадзе, яны натужна іназольна сьпекулююць на сваім вясковым паходжаньні. Вобраз Бацькаўшчыны для іх мае апірышчам маці, за якой - кола адцягненых асацыяцый і вёску, як кола асацыяцый канкрэтных. Для мяне маці зьмяніла самая мова, а вёску - самая Гісторыя. Вось апірышча мае Бацькаўшчыны. А вёска - адна ў неабсяжным коле тэмаў.

I5. Я - месьціч. Я не камплексую наконт сучаснай масавай гарадской культуры. Я падключаны да яе. Я ачольваю яе.

I6. Нашая гісторыя - вялікая, багатая, невядомая. Гэта мая школа, якое я не прайшоў. Гэта мае самыя галоўныя ўрокі, якіх я ня меў. Магчыма, прыкарытныя найграна сьмяюцца, "разьвітваючыся са сваёй мінуўшчынай", я ж кіруюся запаветам прарока: "Абыякавы да мінулага ня мае аніякай інтэлектуальнай перавагі над жывёлай і таму ёсьць першы кандыдат на маральную, а затым і фізічную сьмерць. Усё адно, хто гэта - чалавек ці народ"!

I7. Мова і гісторыя - ня ўласнасьць кучкі падсьлепаватых "сьпяцоў". Гэта - плён і набытак усяго народу. Я акунаюся ў іх з галавой і ўсё, што падыму з дна, аддам людзям.

x x x

I8. <u>Рэанімацыя слова</u>. Беларусь, Бацькаўшчына, Радзіма, Айчына, народ, маці, любоў, душа, сэрца, боль, мір, барацьба... Прыкарытны выводзіць гэтыя словы ў мільёны раз, мокрай анучай па школьнай дошцы: ня піша - сьцірае. Я накладаю на гэтыя словы забарону. Толькі ў самай апошняй, выключнай патрэбе, калі буду сьвята перакана         , што не сьцяру, але ацалю такое слова, я наважуся ўжыць яго. Я адмаўляюся ад усялякай высокай "фразеалогіі".

I9. Я адмаўляю ўсе сучасныя ўгодліва-ўтрыманцкія, т.зв. "нарматыўныя" даведнікі: Тлум. сл. бел. мовы, Руска-бел. слоўнік, Беларускую граматыку і вытворныя ад іх. Мая норма палягае на адчуваньні гармоніі слова, якому вучуся ў Багушэвіча, Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага, Караткевіча...

20. Я адмаўляю рэформу 33-га года, вяртаю мяккія знакі і пераднацыскнае я ў прыназоўніках /ня буду, бяз гэтага/.

2I. Мой клопат - рэальнае бытаваньне і рэальнае разьвіццё мілагучнае беларускае мовы. Таму я не абдзіраю, як ліпку, рускую мову, але шукаю ў дыялектах, гістарычнай і класічнай літаратуры назваў дзеля сучасных прадметаў, зьяваў. Я раблю гэта адпаведна законам беларускага словаўтварэньня і гармоніі слова.

x x x

22. <u>Творчасьць</u>. Яна непадзельная. Я шукаю сябе ў розных жанрах, амплуа і г.д. Я адмаўляю гатовыя формы.

23. Я прызнаю магчымасьць усялякае ўтрыроўкі ў літаратуры, як адзіны вынікові для самавука шлях.

24. Я ведаю, што як творчасьць мая без праўдзівай грамадзянскасьці, так і грамадзянскасьць без сапраўднай літаратуры - пусты гук. Я не дэкларую "звышлітаратуры", "новае мысьленьне" і г.д. Я ведаю адно: чым далей заціскаць рот, тым больш гучнай і суладнай будзе пасьля прамова. Нашая ж літаратура настолькі нявыказаная, што ёй самы час быць геніяльнай.

25. Кожны мой твор мусіць быць дзівам. Або літаратура абсалютна адметная і непрадказальная - або не літаратура наогул.

26. Жывое слова або не - залежыць ад "нэрваў" слова, ад таго, чаго няма ў прыкарытных - ад іроніі, горкай іроніі, самаіроніі. Яны наогул не іранізуюць, бо ў іроніі немагчыма схлусіць. Іронія не старэе, яна - просты шлях да трагічнага.

27. Мой гумар - сарказм.

28. Я адмаўляю насычэньне паэтычнага і празаічнага радка прыгоствамі і шматзначнасьцю. Шлях маёй самарэалізацыі - віртуёзная прастата. Максімальна вызваліць сваю падсьвядомасьць і згарманізаваць яе.

29. Я дбаю пра інтэлектуалізм твора, каб чытач не апускаўся, а падымаўся да твора ў сваім роздуме і пачуцьці.
30. Я дбаю пра мабільныя формы беларускай прозы. Напрыклад - кароткі раман, кароткі гістарычны раман.
31. Я вымяраю паэзію музыкай. Дзьве гэтыя галінкі спрадвеку ішлі побач: то аддаляліся ў горшыя для паэзіі часы, то набліжаліся ў часы паэтычнага росквіту. У наяўнай "беларускай літаратуры" няма твораў-спадарожнікаў сучаснае музыкі. Хіба толькі творы прарока, творы Разанава...
32. Я не стаўлю мэты па"тараць на беларускай глебе ўсе тыя вышыні, якія прайшла сусьветная літаратура за час пакуль у нас альбо выміралі альбо спалі. Гэта галоўная задача перакладчыкаў.
33. Я стаўлю мэту зьведаць усё пройдзенае сусьветнай /перадусім - эўрапэйскай/ літаратурай і - ісьці далей.

# ка;хроніка;хроніка;хроніка;

4.01.'89

Старшыня Галоўнага праўлення БГКТ д-р А.Баршчэўскі адмовіў для БАС-у ў памяшканні Варшаўскага аддзела БГКТ.

13.01.'89

Студэнцкі клуб "Гадэс". Агульнапольская рада культуры студэнтаў нацыянальных меншасцяў арганізавала перагляд мастацкай творчасці. Беларускую культуру ўвасабляла мінская рок-група "Бонда"
Студэнцкі дом "Эдэм". Беларускія студэнты, пакінуўшы пульсуючае хардрокам "пекла", сустракалі Новы год.

2.02. - 11.02.'89

У гэтых днях пабывалі ў нас у гасцях суродзічы-аднагодкі, прадстаўнікі адраджэнскіх рухаў Беларусі: мінскай "Талакі" - Сяржук Вітушка і Алеся Сёмуха, маскоўскага зямляцтва "Пагоня" - Юрась Чудзін. Наведалі яны цікавыя куткі Беласточчыны. Выступалі на сустрэчах са студэнцкай моладдзю ў Варшаве ды ў Беластоку на Народным універсітэце. Распавядалі пра апошнія бурлівыя падзеі ў рэспубліцы. Абмяняліся мы з імі незалежнай літаратурай і поглядамі адносна цяперашняй палітычнай сітуацыі.

22.02.'89

У Беластоку заснаваўся першы гурток БАС-у, які аб'ядноўвае студэнтаў Філіяла Варшаўскага універсітэта і Беластоцкай медычнай акадэміі. Сташынёю гуртка стаў Юрка Каліна /III-ці курс гісторыі ФВУ/.

25.02.'89

У Варшаве БАС наладзіў Баль беларускага студэнта. Прысутнічалі таксама сябры з іншых універсітэцкіх цэнтраў.

7.03.'89

Пяць гадоў таму пачалося распаўсюджванне першага нумара нашага часопіса. Была нагода да святкавання. Цяпер астаецца толькі чакаць віншавальных лістоў.

10.03.'89

У сустрэчы-турніры, якая адбылася ў Гайнаўскім доме культуры "Гурнік", прынялі ўдзел тры каманды: студэнцкая - "БАСаўцы" і вучнёўскія, з гайнаўскага і бельскага белліцэяў - "Калі ласка" і "Тураўцы". Студэнты і тут не падвялі - заваявалі высокае трэцяе месца. Вучні бельскага ліцэя занялі перадапошняе, а трэцяе ад канца - ліцэісты з Гайнаўкі.

11.03.'89

У студэнцкім клубе "Гвінт" у Беластоку праводзіліся традыцыйныя запусты, імпрэза забаўнага характару перад Вялікім постам. Да позняй ночы гуляла звыш 300 асоб. Арганізатары: Брацтва праваслаўнай моладзі і Беларускае аб'яднанне студэнтаў.

14.03.'89

У Любліне адбыўся заснавальніцкі сход гуртка БАС-у пры Універсітэце імя М.Кюры-Складоўскай і Сельскагаспадарчай акадэміі. Старшынёю гуртка быў выбраны Яраслаў Іванюк, студэнт I-га курса гісторыі. На сходзе прысутнічалі прадстаўнікі НЗС-у і мясцовай "Салідарнасці".

16.03.'89

Заснаваўся гурток БАС-у пры Беластоцкай палітэхніцы. Старшынёю стаў Міраслаў Пякарскі /4-ты курс механікі/.

Узнік гурток БАС-у пры Варшаўскім універсітэце. Члены-заснавальнікі сваім старшынёю выбралі студэнта трэцяга курса гісторыі Міколу Ваўрэнюка.

23.03.'89

71 гадавіна Акту 25 Сакавіка - абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Беласток, інтэрнат Медычнай акадэміі - БАС-аўскае ўрачыстае адзначэнне нацыянальнага свята. Віншавальныя лісты ад арганізацый польскіх сяброў.

31.03.-2.04.'89

15-асабовая група членаў БАС-у пабывала на фестывалі рок-музыкі ў Гародні. Быў гэта першы сарганізаваны выезд нашага студэнцтва на Беларусь. Спадзяёмся, не апошні.

1.04.'89

Ірэна Гаданьчук, студэнтка рускай філалогіі, стала старшынёю гуртка БАС-у, пакліканага да жыцця гданьскім студэнцкім асяроддзем.

I2 - I4.05.'89

Ольштынская Рада культуры сарганізавала ў непадалёкім Мельне навуковы семінар, прысвечаны нацыянальнай свядомасці беларусаў,у якім удзельнічалі таксама студэнты з Беластока, Гданьска і Варшавы. З дакладамі выступілі гісторыкі: Яўген Міранович і Юры Туронак ды літаратар Сакрат Яновіч.

I9 - 2I.05.'89

Паломніцтва праваслаўнай моладзі на святую гару Грабарку. Сёлета, упершыню была сарганізавана беларускамоўная дыскусійная група, са сваім апекуном а.Уладзімірам Місеюком. Супольнае вогнішча было поўнасцю беларускае. З мастацкімі праграмамі выступілі: падрыхтаванае Багданам Пурам праваслаўнае маладзёжнае брацтва з Беластока, члены гайнаўскага царкоўнага хору з Дымітрам Ціханюком ды БАС-аўцы на чале з Эляй Бэзюк. Рэлігійны гімн "Магутны Божа" моладзь слухала стоячы.

I7 - 30.06.'89

У гасцях на Беласточчыне пабываў танцавальны калектыў "Васілёк" з Нью-Йорка. Падчас візіта, 26 чэрвеня быў падпісаны дагавор аб лучнасці і супрацоўніцтве паміж БАС-ам і Арганізацыяй беларуска-амерыканскай моладзі. Гэты гістарычны дакумент змясціла ліпенская "Прысутнасць" /"Ніва", 30.07.'89/, а гастролі "Васілька" ды паасобных яго членаў багата апісвала "Ніва".

25.06.'89

Чацвёртае студэнцкае Купалле на дачы Латышонкаў у Супраслі. Больш за 200 удзельнікаў, у тым ліку і беларусы з Гродзеншчыны, Злучаных Штатаў Амерыкі, Нямеччыны.

27.06.'89

Паход з Валіл у Мастаўляны -месца нараджэння Кастуся Каліноўскага. Разам з моладдзю з Беласточчыны ішлі гродзенскія "паходненцы" ды нью-йорскі "Васілёк. На вогнішчы ў Мастаўлянах далучылася яшчэ вялікая група мясцовых, каб супольна ўшанаваць памяць паўстанца I863 г., паспяваць родныя песні, добра пагуляць.

30.06.- 3.07.'89

На Беларусі пабывала група членаў БАС-у. Запрашалі і сардэчна прымалі гасцей сябры з гродзенскай "Паходні". БАС-аўцы пабачылі свята Купалле ў Гародні, пазнаёміліся з гэтым старажытным горадам, наведалі Вільню.

I7 -22.07.'89

Па дарозе з Крушынян, праз Гарадок, Каралёвы Мост, у Супрасль, прайшоў рэйд праваслаўнай моладзі. Вядомы ён таксама як рэйд Юркі Асенніка, ад прозвішча арганізатара, які ў сабе злучыў супольныя намаганні Брацтва праваслаўнай моладзі і Беларускага аб'яднання студэнтаў.

24 - 29.07.'89

Самы вялікі паход па Беласточчыне, "Бацькаўшчына 6", сарганізавала Галоўная рада Беларускага аб'яднання студэнтаў. Маршрут студэнцкага вандравання, у якім прымалі ўдзел таксама вучні сярэдніх школ ды працуючая моладзь, пралёг якраз у цэнтральнай частцы беларускага этнасу Беластоцкага краю: Кашалі,Орля, Чыжы, Курашава, Вялікія Тыневічы, Нарва, Ляўкова, Нараўка.

25 - 28.08.'89

Рэйд вучнёўскае моладзі: Праневічы, Гацькі, Пасынкі, Ракавічы,Збуч. Арганізатар: тэатральны гурток ліцэістаў з Бельска "Парнас". Дасканалая краязнаўчая падрыхтоўка. Выдадзена спецыяльная "Рэйдавая газета", якая спалучыла інфармацыю пра ваколіцу з літаратурнымі спробамі моладзі.

24. 09.'89

Важная падзея ў наменклатурных кругах БАС-у - ажаніўся старшыня Яўген Вапа. Адны гаварылі, што палажыў ён галаву, другія - пайшоў у змагары, трэція лічылі гэты факт вялікім подзвігам на карысць Бацькаўшчыны. І першыя, і другія, і трэція гулялі на вяселлі тры дні.

25. IO.'89

Дакладам Саквата Яновіча пра сучасную маладую беларускую літаратуру распачаў дзейнасць Беларускі народны універсітэт.

27.IO.'89

На запрашэнне гуртка БАС-у пры Варшаўскім універсітэце, са студэнтамі гэтай школы спаткаўся Сакрат Яновіч. Ягонае выступленне, як і пазнейшая дыскусія, тычыліся выбараў у Сейм і Сенат Польскай Народнай Рэспублікі на Беласточчыне і паставаў беларусаў, абумоўленых гэтай падзеяй і зменены палітычнай сітуацыяй.

28.29.30. IO.'89

Тры спатканні з Данчыкам. Першае, у Лёніка ў Валілах, куды прыехала немалая грамада басаўцаў; другое, у Беластоцкай філармоніі - пад сцягамі энтузіязму моладзі; трэцяе,у варшаўскім клубе БГКТ - сяброўская гутарка.

IO.II.'89

Атрасіны першакурснікаў у Варшаве. Пад музыку "Дубіноў" гулялі дзве сотні студэнтаў, у тым ліку звыш дваццаці свежа спечаных.

I7.II.'89

Беластоцкія атрасіны, як звычайна, прыцягваюць не менш паўтысячы асоб. Так было і сёлета, на дзевятых ужо атрасінах студэнтаў-першакурснікаў.

22.II.'89

Другія заняткі ў Беларускім народным універсітэце. Жыццяпіс Францішка Аляхновіча,ў сувязі з перахаваннем праху драматурга, зачытаў Юрка Латышонак. Пра сітуацыю ў Беларусі распавёў госць з Менска, Алесь Дзярновіч.

24.II.'89

У Бельскім доме культуры было наладжанае Свята беларускай моладзі. Мела яно форму спаборніцтва трох каманд: "БАС-печнікаў", "Калі ласка" /гайнаўскі белліцэй/ і "Рэформа" /бельскі белліцэй/. На гэты раз усе сталі пераможцамі і з пачуццём выйгрышу гулялі на дыскатэцы, якая аднак для большасці "БАС-печнікаў" была занадта жвавая.

25.II.'89

Упершыню былі арганізаваны атрасіны ў ольштынскім студэнцкім асяроддзі. На жаль, раней знойдзеныя першакурснікі пабаяліся цяжкіх выпрабаванняў і ніводзін з іх не паказаўся на імпрэзе. Старэйшыя студэнты маглі пагуляць без псіхічнай нагрузкі, што трэба даваць прыклад маладым

2 - 3.I2.'89

Беларускае аб'яднанне студэнтаў прыняло ўдзел ва ўшанаванню 63 гадавіны трагічнага разгону польскай паліцыяй павятовага з'езду Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў Старым Беразове. 2-га снежня адбылася сустрэча ў Старым Беразове, 3-га снежня - малебень у гайнаўскай царкве і сесія ў Гайнаўскім доме культуры "Гурнік".

**БЕЛАРУСЫ!**

**ПРА НАШЫ СПРАВЫ БУДЗЕМ ГАВАРЫЦЬ САМІ**


СУСТРЭЧЫ

ЧАСОПІС БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ У ПОЛЬШЧЫ

Аднадзёнка, № I /I2/, Варшава, I989г.

Нумар падрыхтавалі:
Мікола Ваўранюк, Хрысціна Гаўрылюк, Барбара Кучынска /фота/, Аляксандр Максімюк /галоўны рэдактар/, Юрка Навацкі /графічная апрацоўка/, Анна Чаўмчук, Марак Тапалеўскі.



Адрас для карэспандэнцыі:
"Sustrečy", klub BTSK
ul. Starościńska 1b,
skr. poczt. 244
Warszawa, Poland

Наша ніўка ®

Жыццё

Чым жа зараз ёсць жыццё?
У гэтай краіне няма жыцця!
Ёсць толькі мізэрнае гібенне,
На'т музыка не ёсць чымсьці, што лезе ў душу.
Нічога няма ў крамах, толькі водка й папіросы,
На'т сігарэтаў не найдзеш.
І грошы робяць па дваццаць тысяч у адной паперы.
І на'т ключа ад канцяпы* няма, і вазьмі й вышлі
пісьмо да Колі,
І толькі Дорсы часам цешаць.
Плачу!
Так, плачу, але не над сабою, а над людзьмі.
Найбольш шкада мне гэтых людзей, якія не бачаць
што робіцца,
Якія сьлепа вераць, што будзе добра.
Мо' будзе лепш, але ніколі не будзе добра!
І мяккага знака не пішуць там, дзе ён павінен быць,
Ці так цяжка напісаць некалькі знакаў больш?!
Але я буду жыць і х..!

Багдан** Сіманенка /1965 - ?/
/верасень 1988/

* канцяпа - невялікае неабсталяванае памяшканне, якога др Баршчэўскі адмовіў на кватэру БАС-а.

** Не блытаць з Багдановічам /рэд./

